мроях...

Бывай, мой любы!

Усяго табе добрага, Адам!..

*... Грэх замалі мой, добры пракурор!*
*Не асуджай мяне ты, мой каханы, –*
*як груз бетонны нашу я твой дакор,*
*нашу ў сабе і днём, і ноччу – пастаянна.*
*Жыццё маё Бог не саткаў з уцех,*
*і шчасця гэтага ў жыцці я не спазнала:*
*мяне забілі на дзевятнаццатай вярсце,*
*на дваццаць пятай тое ж напаткала...*
*Даруй, Адам, і строга не судзі мяне,*
*і сам ніколі судзімы ты не будзеш...*
*... Калі ж мяне мой Бог за грэх не пракляне,*
*тады даруюць мне мой грэх і людзі.*

**6.**

У Храм святых Пятра і Паўла Зінаіда Паўлаўна прыйшла ў дзень услаўлення дванаццаці апосталаў Хрыстовых.

Перад споведдзю ўбачыла айца Уладзімера. Дачакалася, калі ён падыйдзе да яе, нахіліла галаву, папрасіла:

– Дабраславіце, айцец Уладзімер!

Ён дакрануўся рукой да галавы:

– Дабраслаўляю, Зінаіда!

Яна ўбачыла, што ў храм прыйшоў і пракурор Мяжэвіч. Ніколі да гэтага не бачыла яго ў саборы.

Ён паставіў адну свечку да памінальнага стала, а другую на падсвечнік – да свята.

Зінаіда паставіла побач і свае некалькі свечак. Жадала

добрага здароўя і доўгіх год жыцця той хворай, якая збегла з бальніцы... Яшчэ – Ларысе Кандратавай, лепшай сваёй сяброўцы. Крыўды Ларыса на яе не трымала, што з Леанідам разышліся яе шляхі, але ж і ранейшай радасці пры сустрэчы ўжо не выказвала. Праз два гады пасля таго здарэння выйшла замуж за бельгійца, пакінула радзіму. Адтуль прыслала некалькі лістоў, расказвала пра сябе... Шчаслівa ў яе ўсё атрымалася ці не, не зразумела Зінаіда..

Яшчэ паставіла свечку Кацярыне Кур’яновіч. На Украіну пераехала – выйшла замуж за кіеўскага хірурга.

І апошнюю – за Ігара Літошына, доктара. Дзякуючы яму, яна перанесла такую бяду, але ж і сустрэла сваё шчасце. Ігар недзе ў Гародні, працуе галоўным урачом адной з гарадскіх бальніц.

Пракурор памянуў Прынцэсу, якая загінула, папрасіў Бога, каб Ён даў доўгае жыццё той, новай Жанчыне, якая пачала нараджацца ў трэці раз.

Прынцэса падахвоціла пераступіць парог Божага храма слугу закона.

Адам Мяжэвіч зрабіў першы крок да Бога.

А ўсе мы ведаем: зрабіўшы ў жыцці хаця б толькі адзін, першы крок, за ім народзіцца і другі, і трэці... І выб‘ецца чалавек абавязкова на светлую дарогу, на шлях да Вышняга ...

Шляхі Гасподнія несправядальныя...

*24 снежня 2003 – 12 студзеня 2004 года*
*Санаторый “Бярэсце”*

